ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

КНІГА НОША

№ 51
жнівень, 2018

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Наталля ПАВАЛЯЕВА:

# «Я фанатка дэтэктываў...»



фота www.lit-bel.org.

**– Шаноўная Наталля Сяргееўна, Вы адна з выкладчыц у Школе маладога пісьменніка, якая працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Што Вы звычайна раіце тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?**

– Я перакананая ў тым, што не існуе нейкіх універсальных парад адносна пісьменніцтва – тут усё вельмі індывідуальна: тое, што спрацуе, «стрэліць» у творчасці аднаго, зусім не падыдзе іншаму. І ўсе ж дзве парады нібы напрошваюцца самі: шмат чытаць і ўвесь час пісаць. Чытанне – самы правільны шлях да пісьменніцтва. Але трэба чытаць удумліва, аналізуючы тэкст, задаючы сабе пытанні: як гэты твор уздзейнічае на мяне, якія думкі і пачуцці абуджае, якія прыёмы выкарыстоўваў аўтар, каб выклікаць менавіта гэтыя пачуцці і эмоцыі. Не абавязкова пры гэтым, каб твор падабаўся. Галоўнае – увесь час думаць, аналізаваць. Калі падабаецца – то чаму? Калі не падабаецца – то чаму? Адмоўны досвед – таксама досвед; так можна навучыцца не рабіць тых памылак ці не выкарыстоўваць тыя прыёмы, якія не працуюць ці выклікаюць раздражненне ў чытача.

Ну, а тое, што пісаць трэба ўвесь час, калі жадаеш быць пісьменнікам – гэта, мне здаецца, рэч відавочная. Практыка важная ў любой справе, у любой прафесіі. Вельмі карысна рабіць нататкі «для сябе», на будучыню – нікалі не ведаеш, дзе і калі спатрэбіцца такі вось напрацаваны «сыры матэрыял».

**– Вы не толькі пераклалі, але і праілюставалі кнігу аднаго верша «Нябесны футбол» шведскай пісьменніцы Іды Ліндэ. Чым яна Вас зацікавіла і як ішла праца над кнігай?**

– Гэта даволі доўгая гісторыя.

У лістападзе 2015 года я ўпершыню пабывала ў Швецыі, у Стакгольме. Выкладчыкі Школы маладога пісьменніка падчас гэтай паездкі знаёміліся з досведам падобных школ у Швецыі. Так я пазнаёмілася з Ідай – яна выкладае ў адной з найстарэйшых у Еўропе пісьменніцкіх школ, якая размешчана недалёка ад Стакгольма, на востраве Біскупс-Арно.

*(Працяг на стар. 7)* ➲

### Даведка «Кніганошы»:

**Наталля Паваляева – літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, перакладчыца, мастак, кніжны графік. Пераклала на рускую мову раман Джэнет Уінтэрсан «Гаспадарка святла», на беларускую мову кнігі вершаў Іды Ліндэ «Нябесны футбол» і «29 недасланых лістоў». Нарадзілася ў 1971 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Дайнека Леанід. Выбраныя творы. Прадм. А. Марціновіча. – Мінск: Беларуская навука, 2018. – 604 с.: [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя І. Мастацкая літаратура).**

У аднатомнік вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Кастуся Каліноўскага, аўтара дванаццаці гістарычных раманаў Леаніда Дайнекі (нар. 1940) увайшлі найбольш значныя яго вершы, два новыя раманы, а таксама мініяцюры «Герадоцінкі», у якіх – развагі пра розныя падзеі гісторыі і сучаснасці.




**Ляшкевіч Ірына. Вас я чакала: кніга вершаў. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 124 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 107).**

Кніга паэзіі Ірыны Ляшкевіч «Вас я чакала» – гэта шчырая размова з чытачом пра тое, чым поўніцца сучаснае вясковае жыццё жанчыны-творцы. У зборнік увайшлі як новыя вершы, напісаныя за апошнія гады, так і выбранае з першага зборніка паэзіі «Сувой».




**Бароўскі Анатоль. Кузня: подступы да рамана. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 400 с.**

Галоўны герой рамана Антон Клімовіч трапляе ў XVI стагоддзе і становіцца летапісцам гетмана Вялікага Княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага падчас Аршанскай бітвы. Аўтар стварае свет, у якім існуе некалькі рэальнасцяў. Касмічныя і падземныя падарожжы, анёлы-ахоўнікі ўдала спалучаюцца з падзеямі сучаснай гісторыі – фармаванне і станаўленне незалежнай Беларусі, з'яўленне і знікненне дзяржаўных сімвалаў, чарнобыльская катастрофа, абарона Курапатаў... Кніга зацікавіць чытача любога ўзросту, але найбольш будзе карыснай для вывучэння нашага мінулага вучням і студэнтам сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў.




**Стагановіч-Кольба Тамара. Абрэзкі з мінулых гадоў. Прадм., камент. Наталлі Гардзіенкі. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 564 с. [12] с.: іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 37).**

Кніга «Абрэзкі з мінулых гадоў» (37-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына») – гэта ўспаміны беларускай мастачкі Тамары Стагановіч-Кольба. Дзяцінства на роднай Навагрудчыне, выезд разам з бацькамі ў Нямеччыну ў часе Другой сусветнай вайны, украінская гімназія ў лагерах для перамешчаных асобаў, прыбыццё ў ЗША на сталае жыхарства, навучанне мастацтву, сямейнае, прафесійнае і грамадскае жыццё – пра ўсё падрабязна і эмацыйна распавядае аўтарка. Свае ўспаміны яна пісала пасля выдання мемуараў бацькі і маці, і гэты тэкст стаў своеасаблівай фінальнай часткай «сямейнай сагі» Стагановічаў.




**Мурзёнак Пётра. Колеры: кніга паэзіі. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 188 с.**

Пётра Мурзёнак вядомы чытачам як палымяны публіцыст, захоплены гісторык, аўтар кніг «Шляхі да беларускай нацыі» і «Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу». Новая кніга адкрывае нам Мурзёнка-паэта. Тут друкуюцца вершы, што нарадзіліся за апошнія пяць гадоў, уключна з вершамі з «іспанскага» і «дамініканскага» дзённікаў.




**Ратуша: літаратурны альманах. Віцебск. №4, 2018. Укл. А. Лазебная. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 240 с.**

Чацвёрты нумар літаратурнага альманаха Віцебскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Ратуша» знаёміць з паэзіяй, прозай і гумарам мясцовых аўтараў. У раздзеле «Проза» друкуюцца творы Алеся Аркуша, Франца Сіўко, Стасі Наркевіч, Людмілы Андзілеўка, Уладзіміра Марудава і інш. У раздзеле «Паэзія» публікуюцца вершы Марыі Баравік, Уладзіміра Папковіча, Алены Гінько, Антона Бубалы, Алеся Замкоўскага, Лявона Няўдахі, Таццяны Нядбай, Георгія Станкевіча і інш. Раздзел «Літаратуразнаўства» утрымлівае артыкулы Таццяны Дубоўскай «Творчы вітраж Стасі Наркевіч», Ірыны Саматой «Праявы камізму ў творчасці Уладзіміра Папковіча», Вітольда Ермалёнка «Сядзіба ў Міжрэччы».




**Шапран Сяргей. Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія. – Смаленск: Інбелкульт, 2018. – 428 с., [48] л. іл.: іл.**

Паэтам Беларусі называў яго Васіль Быкаў. Пімен Панчанка пісаў: «Помніце, я заўсёды верыў і веру і ўсюды сцвярджаю, што Вы – адзіны па-сапраўднаму таленавіты, арыгінальны і патэнцыяльна вялікі паэт...». Генадзь Бураўкін гаварыў, што ягонае імя павінна знаходзіцца ў адным шэрагу з найлепшымі еўрапейскімі творцамі. Размова пра Уладзіміра Някляева, пра якога Яўген Еўтушэнка пісаў: «Паэт у Беларусі – гэта таксама больш, чым паэт». А Рыгор Барадулін характарызаваў наступным чынам: «Адкрыты, як абсяг, замроены, як далягляд, заглыблены, як час... Інтэлектуал і багемшчык, эпікурэец і аратай на ўдзірванелых загонах нашае паэзіі. Наватар і дасведчаны традыцыяналіст, артыст перад аўдыторыяй і роспачны дапытнік сам з сабою... Радок Някляева, голас Някляева, манеру жыць і тварыць не зблытаеш ні з кім». Паэту Уладзіміру Някляеву, яго манеры жыць і тварыць прысвечана гэтая кніга.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Алексіевіч Святлана. У вайны не жаночы твар. Перакладчык – Валянцін Акудовіч. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 366 с.**

Дакументальна-мастацкая хроніка «Галасы Утопіі» – пяць кніг, у якіх «маленькі чалавек» сам апавядае пра свой лёс. Гэта адметны жанр – шматгалосыя раманы-споведзі, у якіх з малых падзеяў складваецца вялікая гісторыя. Перад чытачом – апошняя аўтарская рэдакцыя цыкла ў найноўшым беларускім перакладзе. Пісьменніца дапрацавала хроніку: скасавала цэнзурныя праўкі, далучыла новыя эпізоды, а таксама старонкі з уласнага дзённіка.

«У вайны не жаночы твар» – першая кніга хронікі, упершыню выйшла ў 1985 годзе. Досвед унікальнага спазнання духоўнага свету жанчыны, якая трывае нечалавечыя пакуты вайны.




**Алексіевіч Святлана. Апошнія сведкі. Перакладчык — Барыс Пятровіч. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 312 с.**

«Апошнія сведкі» – другая кніга хронікі. Успаміны пра Другую сусветную вайну дзяцей – самых бесстаронніх і самых няшчасных яе сведак. Вайна, убачаная дзіцячымі вачыма, выявілася яшчэ больш пераканаўчай, чым адлюстраваная ў кнізе «У вайны не жаночы твар».




**Алексіевіч Святлана. Цынкавыя хлопчыкі. Перакладчык – Андрэй Хадановіч. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 352 с.**

«Цынкавыя хлопчыкі» – трэцяя кніга хронікі. Без гэтае кнігі немагчыма ўявіць сабе ні гісторыі афганскай вайны, смерцяноснай і няправеднай, ні гісторыі апошніх гадоў савецкай улады, якую гэтая вайна канчаткова падарвала.




**Алексіевіч Святлана. Чарнобыльская малітва. Перакладчык – Уладзімір Арлоў. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 336 с.**

«Чарнобыльская малітва» – чацвёртая кніга хронікі, прысвечаная галоўнай тэхнагеннай катастрофе XX стагоддзя. Кніга вельмі часта гаворыць галасамі нашых суайчыннікаў – ліквідатараў і іх сваякоў, журналістаў і навукоўцаў, настаўнікаў і жыхароў палескіх вёсак.




**Алексіевіч Святлана. Час сэканд-хэнд. Перакладчык – Сяргей Дубавец. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 490 с.**

«Час сэканд хэнд» – пятая кніга хронікі, якая распавядае не столькі пра падзеі XX стагоддзя, колькі пра іх адлюстраванне ў сэрцы паспалітага чалавека, прадстаўніка «новай гістарычнай супольнасці людзей». Паводле жанру гэта – трагічны эпас савецкага народа, які балюча знікае на нашых вачах разам з распадам імперыі.




**Санотенко Анатолий. Невероятные приключения Вацлава Принципа, или – Бобруйск и его жЫвотные: постмодернистский роман-трансформер-трэвел-комикс. – Минск: Медисонт, 2018. – 218 с.**

Анатоль Санаценка – паэт, празаік, драматург, перакладчык. Выдаў шэсць кніг вершаў – па-руску і па-беларуску. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра. Галоўны рэдактар «Бабруйскага кур'ера». Як паэт, празаік і драматург публікаваўся ў рэгіянальным, рэспубліканскім і расійскім друку. «Невероятные приключения Вацлава Принципа, или – Бобруйск и его жЫвотные» – першы раман аўтара.




**Станкевіч Юры. Бесапатам: раман, аповесці, апавяданні. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 354 с.**

Кнігу «Бесапатам» вядомага празаіка Юрыя Станкевіча складаюць напісаныя ў розныя гады раман «Любіць ноч – права пацукоў», аповесці «Апладненне ёлупа», «Лавец святла поўні», «Бесапатам», а таксама некалькі апавяданняў. Творы аўтара яшчэ падчас ранейшых публікацыяў выклікалі вялікі чытацкі розглас і шматлікія вострыя спрэчкі. Для празаічных рэчаў, прадстаўленых у кнізе, характэрныя напружаны сюжэт, алегарычнасць, прытчавасць, няпростыя, часам шокавыя сітуацыі і развагі пра будучыню. Праблемы, якія ставіць аўтар, выходзяць далёка за ўнутрыбеларускі кантэкст і тычацца лёсу еўрапейскай цывілізацыі.




**Навасельцава, Ганна. Калі цябе спаткае казка...: Зборнік сучасных казачных гісторый. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 166 с.**

Кніга складаецца з шэрагу аўтарскіх казак і казачных апавяданняў, дзе ўвасоблена мастацкая рэканструкцыя матываў і вобразаў з беларускага і сусветнага фальклору. Галоўнымі героямі выступаюць вядомыя чарадзейныя персанажы, міфалагічныя істоты, якія праходзяць дзівосныя выпрабаванні, спазнаюць сябе і вучацца разумець іншых. Казкатворчасць Ганны Навасельцавай уводзіць у свет цудаў, дзе трэба задумацца, чаму ліска-чарадзейка шкодзіць дзеду з бабай, што ставіць вышэй за дабрабыт незвычайны каток, на якія ўчынкі здатная сучасная Папялушка. Адметная казачная рэчаіснасць зацікавіць аматараў літаратуры фэнтэзі рознага ўзросту. Зборнік будзе карысны пры вывучэнні беларускага фальклору і славянскай міфалогіі.




**Ліндэ Іда. Нябесны футбол. Пер. са швед. Н.С. Паваляевай. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 36 с.: іл.**

Бацькі шведскай паэткі і пісьменніцы Іды Ліндэ – у мінулым футбольныя трэнеры. І сама Іда з дзяцінства займалася футболам, пакуль сур'ёзная траўма не прымусіла адмовіцца ад гульні. Пачынаючы з дэбютнага зборніка вершаў «Споведзь дзяўчыны-машыны» (2006), футбол «прапісаўся» ў яе творчасці. «Нябесны футбол» – кніга аднаго верша. Філасофска-лірычныя радкі напісаны ў падманліва «дзіцячай» форме. Гэта разважанне пра складаныя сувязі паміж рознымі жыццёвымі досведамі – паміж дарослымі, якія ўжо маюць уласныя «крылы», і дзецьмі, для якіх усё толькі пачынаецца.




**Янкута Ганна. Кот Шпрот і таямніца атракцыёнаў. Маст. Лілія Давыдоўская. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 64 с.: іл.**

Аднойчы кот Шпрот, які любіць уначы цішком збегчы з балкона і паблукаць па ваколіцах, знаёміцца з прывідамі, што жывуць пад вокнамі яго дома. Так пачынаюцца прыгоды ката Шпрота і хлопчыка Алеся ў парку Чалюскінцаў і завязваецца іх сяброўства з суседзямі – прывідамі, вераб'ямі, мышамі. Героі кнігі ратуюць сяброў, якія трапілі ў загадкавую пастку, і вучацца разам спраўляцца з нягодамі.




**Аповед пра Шакунталу, як ён расказаны ў Першай Кнізе сьвятой Магабгараты ды ў п'есе вялікага паэта Калідасы «Шакунтала пазнаная». Пер. з санскрыту Ігара Кулікова. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 218 с.**

Паданне пра Шакунталу займае важнае месца ў індыйскай літаратуры. Менавіта паводле яе сына Бгараты Індыя была яшчэ ў старажытнасці названая Bhārata, ці «Зямля Бгараты». Цяпер гэта адна з афіцыйных назваў краіны. У дадзенай кнізе змешчаны два пераклады: першы – арыгінальны аповед пра Шакунталу з Магабгараты; другі – яго апрацоўка ў выглядзе п'есы «Шакунтала пазнаная», створаная найвялікшым санскрыцкім паэтам Калідасам.




**Букоўскі Чарлз. Чытво. Пер. з англ. І. Кулікова. – Вільня: Логвінаў, 2018. – 484 с.**

У «Ладдзі роспачы» Уладзіміра Караткевіча Смерць прыходзіць да героя, каб згуляць з ім у шахматы. У «Чытве» Чарлза Букоўскі Лэдзі Смерць прыходзіць да героя, каб замовіць яму дэтэктыўнае расследаванне. Аўтар гуляецца са штампамі бульварнай літаратуры, ствараючы адначасова і дэтэктыў, і пародыю на яго.




**Вайль Узі. Буржуазія задаволена не да канца. Пер. з іўрыту П. Касцюкевіч. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 138 с.**

Майстар кароткай прозы, ізраільскі пісьменнік і сцэнарыст Узі Вайль (нарадзіўся ў 1964 годзе ў кібуцы Газіт) добра вядомы беларускаму чытачу па публікацыях у газетах «Наша Ніва» і «Мы яшчэ тут!», а таксама ў часопісе ARCHE. Яго апавяданне «Чалавек, які скраў Сцяну Плачу» ў 2009 годзе дала назву першай анталогіі ізраільскай прозы па-беларуску. У кнізе «Буржуазія задаволена не да канца» сабраныя апавяданні і скетчы аўтара, якія моцна розняцца паводле метаду: адны з іх – рэалістычныя, іншыя – фантастычныя, трэція – містычныя, але ўсе яны маюць справу з няўлоўнай сутнасцю шчасця, кахання, смерці і болю.




**Славацкі Юльюш. Баладына. Пер. з польскай Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 148 с. (Драматургі свету).**

Вершаваная драма «Баладына» выдатнага польскага драматурга і паэта-рамантыка Юльюша Славацкага (1809–1849) належыць да самых значных у яго творчым даробку. Выкарыстоўваючы матывы нацыянальнага фальклору, а таксама дасягненні шэкспіраўскай драмы і тагачаснага французскага тэатра, творца закранае праблемы ўзаемадачыненняў Дабра і Зла ў гістарычным часе і ў Вечнасці. Твор упершыню публікуецца ў перакладзе на беларускую мову.




**Петэфі Шандар. Выбраныя вершы. З венгерскай, пер. М. Хведаровіча. — Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 88 с. (Паэты планеты).**

Шандар Петэфі (1823–1849) – нацыянальны паэт Венгрыі, быў пачынальнікам рамантычнай паэзіі на венгерскай мове. Для Венгрыі яго творчасць мела такое самае значэнне, як творчасць Янкі Купалы для Беларусі. Класічныя пераклады Міколы Хведаровіча спецыяльна для гэтага выдання адрэдагаваныя літаратурным перакладчыкам з венгерскай і нямецкай моваў Міколам Ермалаевым.




**Хіменэс Хуан Рамон. Выбраная лірыка. пер. з іспанскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 100 с. (Паэты планеты).**

Хуан Рамон Хіменэс (1891–1958) – іспанскі паэт, лаўрэат літаратурнай Нобелеўскай прэміі 1956 года, майстар кароткага верша, узорам якога яму служылі ў тым ліку японскія танка. Захапленне жывапісам і еўрапейскай класічнай музыкай выхавала ў паэту абсалютны зрок ва ўспрыманні шматколернасці жыцця і абсалютны слых у адчуванні яго паліфанічнасці.




**Анціпенка Алесь. Прыпадобніўшыся да насарога. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 168 с.**

«Што ёсць мысленнем», «што азначае “верыць”», «што такое смерць і чаму мы яе так баімся», «ці можна знайсці ўнутры нас пляцоўку, з якой яна не выглядала б такой жахлівай», «што такое супрэматызм і загадкавыя квадраты Малевіча» – галоўныя пытанні кнігі. Змест яе складаюць таксама пераклады класічнага твору «Тао Тэ Чынг» вялікага кітайскага містыка Лао Цзы (VI ст. да н. Х.) і будыйскай Кхагавісана суты.




**Сапегі: асобы, кар’еры, маёнткі: зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі; уклад.: А.А. Скеп’ян; рэдкал. А.А. Каваленя [і інш.]. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 320 с.: іл.**

У новым навуковым зборніку змешчаны матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі «Сапегі: асобы, кар’еры, маёнткі», якая прайшла ў Мінску 8–9 верасня 2016 года. У даследаваннях навукоўцаў з Беларусі, Польшчы і Літвы разглядаюцца разнастайныя аспекты гісторыі роду Сапегаў XVI–XVIII стст.




**Шляхамі БНР: Да 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Манаграфія. А. Агееў [і інш.], пад рэд. І. Соркінай, С. Харэўскага. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2018. – 158 с.**

У калектыўнай манаграфіі тэма Беларускай Народнай Рэспублікі прадстаўлена скрозь прызму лакальнай гісторыі. Разглядаюцца падзеі, асобы, адрасы, звязаныя з гісторыяй БНР у Вільні, Мінску, Гродне, Магілёве, Брэсце, Гомелі, Слуцка-Капыльскім рэгіёне. Аўтары шукаюць адказы на шэраг актуальных пытанняў. Чаму Вільня не стала сталіцай БНР? З якімі будынкамі сённяшняй сталіцы Беларусі звязаныя першыя дні абвяшнэння БНР? Што дае падставы называць Магілёў усходнім фарпостам БНР, а Гродна – яе другой сталіцай? Якія асобы і адрасы звязаныя са змаганнем за беларускую незалежнасць у Брэсце? Які ўнёсак Гомельшчыны ў беларускі рух 1917–1918 гадоў? Якія мясціны ў сучаснай Беларусі нагадваюць пра гераічнае змаганне за БНР Слуцкіх паўстанцаў? Якія невядомыя раней матэрыялы пра беларускіх дзеячаў і гісторыю БНР можна адшукаць у архівах і музеях Вільні? Адрасуецца шырокаму колу чытачоў – усім, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй. Матэрыялы кнігі дапамогуць у распрацоўцы экскурсійных маршрутаў па мясцінах БНР.

**Зьміцер Бартосік. Клініка кітайскага дантыста. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2018. 284 с.: +24 с. іл.**

Нястомны вандроўнік Радыё Свабода, аўтар адпраўляецца ў падарожжа па «забытых адрасах» культуры і ча-




роўнай палачкай славутых імёнаў уваскрашае цэлыя эпохі, сюжэты і жарсці з нязменным вынікам – адкрыццём! Ён знаходзіць сляды француза Апалінэра ў Беларусі і беларуса Рыпінскага ў лонданскім Тотэнгеме, распавядае кур’ёзныя, страшныя, смешныя гісторыі пра беларускіх пісьменнікаў і галоўнага героя познесавецкай Беларусі Уладзіміра Караткевіча, а ў прыгадках пра «дачку Леніна» і Халодную сінагогу ажывае цэлы даўно зніклы горад Мінск. Заўтра ўсе гэтыя адрасы стануць аб’ектамі паломніцтва турыстаў. А пакуль пра гэта ведаеце толькі аўтар і Вы, чытач.




**Федута Александр. Следы на снегу. – Минск: Лимариус, 2018. – 328 с. – (Библиотека «Наш XIX век»).**

У новую кнігу гісторыка літаратуры Аляксандра Фядуты ўваходзяць працы, прысвечаныя асяроддзю Адама Міцкевіча. Кніга выдаецца да 220-годдзя вялікага паэта і 195-годдзя пачатку следства па справе таварыства філаматаў, чальцом якога з’яўляўся Міцкевіч.




**Анемпадыстаў Міхал. Колер Беларусі. – Вільня: Логвінаў, 2018. – 196 с.: іл.**

«Колер Беларусі» – гэта адна з першых спробаў візуалізаваць каларыстыку беларускай мінуўшчыны і сучаснасці з яе яскравымі колерамі і адценнямі, з прыроднымі структурамі, народжанымі пад уздзеяннямі трох стыхій. Дызайнерскі альбом «Колер Беларусі» стаў апошняй вялікай працай выбітнага дызайнера, мастака і паэта Міхала Анемпадыстава. Шыкоўная візуальная частка кнігі суправаджаецца аўтарскімі тэкстамі, якія раскрываюць галоўныя беларускія колеры – паходжанне іх назвы, гісторыю распаўсюду на асобных тэрыторыях, сімвалічную інфармацыю і тыя чыннікі, што ўплывалі на ўсталяванне пэўных каларыстычных прэферэнцый і стыляў. Даследуючы колер як феномен культуры і маркёр традыцыі, аўтар паказвае гісторыю стыляў і задае пэўны ракурс для разумення ўласнай ідэнтычнасці.




**Служа примером бесстрашия: кавалеры полного Георгиевского креста – уроженцы белорусских губерний. Сост. Сергей Беспанский. – Минск: Медисонт, 2018. – 128 с.**

Выданне ўпершыню за мінулае стагоддзе пасля Першай сусветнай вайны дае зборны спіс кавалераў поўнага Георгіеўскага крыжа – выхадцаў з беларускіх губерняў. Кніга будзе цікавая выкладчыкам, студэнтам, музейным працаўнікам і краязнаўцам, што цікавяцца беларускімі героямі забытай апошняй вайны Расійскай імперыі 1914–1918 гг.




**Мельнікаў Андрэй. Максім Багдановіч: Ліхтар нацыянальнага адраджэння. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Максім Багдановіч (1891–1917) – паэт, публіцыст, літаратурны крытык, тэарэтык беларускага нацыянальнага руху (нягледзячы на тое, што амаль усё жыццё ён жыў за межамі Беларусі). Адзін са стваральнікаў сучаснай літаратурнай мовы і распачынальнік традыцыі беларускага мастацкага перакладу. Спадчына М. Багдановіча – частка залатога фонду беларускай культуры.




**Тарас Анатоль. Анатоль Грыцкевіч: Лідар беларускай гістарыяграфіі. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Анатоль Грыцкевіч (1929–2015) – выбітны беларускі гісторык і грамадскі дзеяч. Аўтар шасці навуковых манаграфіяў і больш за тысячу артыкулаў у беларускіх энцыклапедыях, часопісах, зборніках. Адзін з заснавальнікаў Беларускага народнага фронту і згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».




**Дзядок Мікалай. Фарбы паралельнага свету. – Мінск, 2017. – 186 с.: іл. – (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 3).**

Мікола Дзядок – сябар руху беларускіх анархістаў. Нарадзіўся ў 1988 г. З сямі гадоў займаўся ўсходнімі адзінаборствамі. Пасля заканчэння юрыдычнага каледжа БДУ быў залічаны на 3-ці курс юрфака ўніверсітэта, але паступіў у ЕГУ на аддзяленне паліталогіі, вучыўся завочна і працаваў. 03.09.2010 затрыманы, 27.05.2011 асуджаны на 4,5 года пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па ч. 2 арт. 339 КК РБ («Злоснае хуліганства, здзейсненае групай асобаў») – так званай «справе беларускіх анархістаў». Вядучымі праваабарончымі арганізацыямі Беларусі прызнаны палітычным вязнем. 26.02.2015, за некалькі дзён за заканчэння тэрміну, Мікалай Дзядок быў асуджаны дадаткова яшчэ да 1 года зняволення па арт. 411 КК РБ («Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы»). У віну яму паставілі 16 эпізодаў парушэння рэжыму адбыцця пакарання. 22.08.2015 вызвалены ў ліку шасці беларускіх палітвязняў згодна з падпісаным прэзідэнтам Лукашэнкам указам аб памілаванні.

«За пяць гадоў свайго зняволення я пабываў у чатырох турмах і трох калоніях. Такі лёс выпадае вельмі нямногім арыштантам у Беларусі. Больш за год агулам правёў у адзіночнай камеры, змог зблізу пабачыць крымінальны свет і яго прадстаўнікоў; адчуў на сабе ўсе без выключэння метады "выпраўлення" (ад пазбаўлення перадач да адпраўлення ў турму строгага рэжыму) і паспрабаваў усе без выключэння метады турэмнага пратэсту (ад напісання скаргаў да галадовак і членашкодніцтва)».

2-е выданне кнігі «Фарбы паралельнага свету» цалкам на беларускай мове і дапоўнена новымі апавяданнямі.




**Іванова Вольга. Прамоўленая гісторыя: XX ст. у памяці жыхароў беларускай вёскі. – Мінск: Зміцер Колас, 2018. – 448 с., [10] л. іл.: іл.**

Кніга ёсць адной з першых спробаў паказаць гісторыю Беларусі XX ст. скрозь прызму вусных успамінаў жыхароў беларускай вёскі. У ёй асабістасць падзеяў, трагічнасць лёсаў і індывідуальнасць ацэнак выходзяць на першы план, а гістарычныя падзеі з'яўляюцца кантэкстам. Даследаванне, скіраванае на вывучэнне індывідуальнай і калектыўнай ідэнтычнасці, а таксама рэканструкцыю калектыўнай памяці, складаецца з дзвюх частак. У першай прамоўленыя ўспаміны прадстаўляюць вынікі даследавання па рэканструкцыі індывідуальных наратываў і жыццёвых гісторыяў, а таксама паўстаюць крыніцай для наступнага біяграфічнага аналізу. Другая частка прысвечана рэканструкцыі асноўных сюжэтаў вуснай гісторыі беларускіх вяскоўцаў у XX ст. Успаміны суправаджаюцца арыгінальнымі фотаздымкамі і фотакопіямі дакументаў. Даследаванне можа быць цікавым для гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца мікрагісторыяй, праблемамі ідэнтычнасці і калектыўнай памяці.




**Лапатка Якуб. Беларуска-фінскі размоўнік-даведнік. Прадм. К. Мікельсан. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2018. – 204 с.: фат. – (Серыя «Беларускія ЕўраРазмоўнікі»).**

Беларуска-фінскі размоўнік-даведнік прызначаецца найперш тым, хто выязджае ў Фінляндыю ў камандзіроўку, на адпачынак, турыстам, аднак будзе цікавым і карысным і тым, хто не збіраецца ў Суомі. Ён мае адметную структуру: можа дапамагчы карыстальнікам, якія ўпершыню сутыкнуліся не толькі з фінскай мовай, але і з фінскімі рэаліямі. Дзеля гэтага ў кнігу ўключаны практычны граматычны даведнік. Раздзелы размоўніка забяспечаны тэматычнымі беларуска-фінскімі слоўнічкамі. У кнізе таксама змешчана актуальная інфармацыя пра самыя важныя турыстычныя аб'екты. Утрымлівае размоўнік-даведнік і практычную транскрыпцыю.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, januskevic.by, bookstore.lohvinau.by, kniharnia.by і halijafy.by.

# Сустрэчы ў Лоеве, Бараўлянах, Лунінцы

Апошнія дні чароўнага лета… Крыху сумна, бо хутка восень, дождж… Але грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!» і грамадскае аб'яднанне «Саюз беларускіх пісьменнікаў» не дадуць вам засумаваць! Нашыя сябры пабывалі ў Лоеве, Бараўлянах, Лунінцы.

21 жніўня ўдзельнікі клуба аматараў паэзіі «Гучальнае слова» Лоеўскай бібліятэкі сустракалі сябра «Саюза беларускіх пісьменнікаў» паэтэсу Валянціну Осіпаву. Пісьменніца заўжды з радасцю наведвае гэтыя мясціны, бо сама родам з Лоеўшчыны.

Спадарыня Валянціна не толькі пазнаёміла слухачоў з уласнай творчасцю, але і правяла невялікі майстар-клас па складанні вершаў. Пасля чаго аматары паэзіі таксама пазнаёмілі госцю са сваёй творчасцю. За што самым актыўным былі ўручаны прызы ад кампаніі «Будзьма беларусамі!», а бібліятэка атрымала ў падарунак ад «Саюза беларускіх пісьменнікаў» некалькі асобнікаў часопіса «Дзеяслоў».

А 22 жніўня ў Лунінецкай гарадской дзіцячай бібліятэцы віталі сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў Аксану Малішэўскую-Спрынчан ды Вадзіма Жылко.

Спадар Вадзім распавёў дзецям, што такое «малая радзіма», згадаў вядомых лунінецкіх літаратараў і краязнаўцаў, іх кнігі. Спадарыня Аксана чытала вершы са сваіх кніг для дзяцей, загадвала загадкі. Госці правялі конкурс на лепшае пытанне ад слухачоў. Прыемным падарункам для лунінчан быў невялікі выступ 11-гадовай Альжбэты Малішэўскай-Спрынчан.

Завіталі госці і ў Лунінецкую раённую бібліятэку на творчую сустрэчу да мясцовых літаратараў і аматараў мастацкага слова, сяброў клуба «Літаратурная правінцыя» пры бібліятэцы. Вадзім Жылко распавёў пра сёлетнія мастацкія і краязнаўчыя выданні лунінецкіх аўтараў, пра створаную ў бібліятэцы «Літаратурную карту Лунінеччыны». Аксана Спрынчан чытала вершы і празаічныя мініяцюры пра Лунінеччыну. Палессе, Беларусь, некалькі твораў прачытала і Альжбэта.

Са сваімі творамі выступілі лунінецкія аўтары Валянціна Трухнова, Галіна Абрамчук, Настасся Пратасавіцкая, Аляксандр Хаўдзееў, Віктар Пінігін ды іншыя.

Актыўным удзельнікам сустрэчы былі падораны кнігі беларускіх аўтараў, часопісы «Дзеяслоў», іншыя сувеніры ад кампаніі «Будзьма беларусамі!».

26 жніўня ў Бараўлянах SOS-дзіцячая вёска адбылося «Свята Чырвонага носа» – дзень, калі бальнічныя клоуны разам з дзецьмі ды бацькамі ладзяць сумесныя гульні-забаўлянкі. Ініцыятыва, вядомая шмат дзе ў свеце, пакрысе прыжываецца і ў Беларусі – такое свята ўжо праводзілася ў Гомелі, а летась – упершыню ў Бараўлянах. Дзеткі, што трапілі на свята, забыліся хаця б на час пра свае хваробы, бо для іх працавалі «Летняя Акадэмія лекараў» ды «Модны Прысуд», выступалі спевакі ды танцоры… А кампанія «Будзьма беларусамі» ды «Саюз беларускіх пісьменнікаў» падрыхтавалі для прысутных сапраўдны цуд! На свята прыплыла Лахнэска – жыхарка знакамітага таямнічага возера Лахнэс (яна ж – гераіня казкі з кнігі Алены Масла «Мяне завуць Лахнэска»). Прывялі яе да дзяцей пісьменніца, казачніца Алена Масла і актор, драматург, пісьменнік, рэдактар дзіцячага часопіса «Вясёлка» Васіль Дранько-Майсюк.

**Паводле lit-bel.org**

■ АЎТОГРАФ

# «Я фанатка дэтэктываў...»

*(Пачатак на стар. 1)*

Вярнуўшыся дадому, я знайшла ў сеціве на сайце Versopolis фрагменты з дэбютнага паэтычнага зборніка Іды «Maskinflickans testamente» у перакладзе на англійскую мову (цяпер гэты зборнік ёсць і ў перакладзе на рускую мову, «Завещание Девочки-Машины»). Вершы мяне вельмі ўразілі, асабліва – моцныя футбольныя метафары, якія не маглі не знайсці водгуку ў маім футбольна-фанацкім сэрцы. Я напісала Ідзе і выказала сваё захапленне.

Праз прыкладна дзесяць дзён пасля гэтай паездкі мяне чакала сур'ёзная аперацыя, я тры тыдні правяла ў бальніцы, і ўвесь гэты час, пакуль знаходзілася там, малявала. І чамусьці – не ведаю нават, чаму – зноў успомніла пра «Дзяўчынку-машыну», перачытала вершы Іды. І намалявала – не тое каб ілюстрацыі, хутчэй – асацыятыўныя візуальныя інтэрпрэтацыі. Там быў маленькі персанаж пад нумарам сем (нумар, пад якім гуляе мой любімы Крышціяну Раналду і – як пасля высвятлілася – нумар, пад якім гуляла Іда, калі сама займалася футболам), а таксама крылаты персанаж, які апякуе і трэніруе маленькага. Такі анёл-трэнер.

Намаляванае сфатаграфавала на тэлефон і адправіла Ідзе проста з бальніцы. Пазней – якраз напярэдадні Каляд – мяне выпісалі, і праз некалькі дзён (напярэдадні Новага года) ад Іды прыйшоў ліст, у якім быў верш (тады яшчэ без назвы) – вось гэты самы, «Нябесны футбол», напісаны пад уражаннем ад маіх ілюстрацый да «Maskinflickans testamente». Гэта значыць, вось такі атрымаўся ланцужок: я, натхніўшыся вершамі Іды, зрабіла малюнкі, а яна, натхніўшыся гэтымі малюнкамі, напісала новы верш і прапанавала яго праілюстраваць.

Потым Іда шукала выдаўцоў у Швецыі, але яны ўсё не знаходзіліся, а я тым часам вывучыла шведскую мову, зрабіла пераклад, і тут знайшлося выдавецтва «Янушкевіч»... Вось такім чынам усё і адбылося.

**– Вы даследуеце замежную літаратуру, выкладаеце на філалагічным факультэце БДУ. Цікава, а хто Вашыя любімыя аўтары? Каго з аўтараў Вы прапануеце сваім студэнтам пачытаць па-за праграмай?**

– Ну, паколькі я ўжо дваццаць гадоў выкладаю англійскую літаратуру, то, вядома, мае любімыя – гэта англійскія аўтары. Асаблівае месца ў маім жыцці займае творчасць Джэнет Уінтэрсан; таксама магу параіць шанаваць Пітэра Актройда, Антонію Байет, Сару Уотэрс, Анджэлу Картар, Джуліяна Барнса. Люблю Вудхауса і вельмі раю чытаць яго – гэта класіка сапраўднага англійскага гумару. Нядаўна адкрыла для сябе шведскага пісьменніка Фрэдэрыка Бакмана, ён выдатна ўмее пісаць смешна пра сур'ёзнае і часам страшнае – ні ў якім разе не высмейваючы, без ёрніцтва, але з дапамогай смеху дорачы надзею на выйсце з самых, здавалася б, безвыходных сітуацый.

Яшчэ я вялікая фанатка дэтэктыўнай літаратуры. Улетку прачытала трынаццаць раманаў брытанскай пісьменніцы Філіс Дораці Джэймс – яна лічыцца (цалкам справядліва) сучаснай Агатай Крысці. Шведы таксама добрыя ў гэтым жанры – магу параіць раманы Осы Ларсан. З айчыннай літаратуры за апошні час мяне ўразіла кніга Анкі Упалы «На заснежаны востраў». З рускай літаратуры перш за ўсё і ўсіх – Булгакаў, асабліва «Тэатральны раман». Па адным гэтым творы можна смела весці курс пісьменніцкага майстэрства, у ім ёсць усё.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Алесь Камоцкі. Не як так. – Мінск: Кнігазбор, 2018. - (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 103). – 252 с.**

У серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў пабачыў свет зборнік лепшых вершаў вядомага паэта і барда. *«Голас барда Алеся Камоцкага хораша пачувае сябе ў міжзор'і ўдзячных сэрцаў. Філосаф па адукацыі, тонкі лірык на паслугах у роднага слова. У век усеагульнай папсы яго песні вяртаюць душу да вытокаў, натуральна гучаць беларускаму вуху, не губляюцца ў сугуччы песняў суседзяў»*, – гэтыя словы-вітанні Рыгора Барадуліна, абраныя замест прадмовы, ёмка і дакладна прадстаўляюць аўтара і выканаўцу ўласных песень, з якім Народны паэт сябраваў шмат гадоў. Сапраўды, усё, напісанае і праспяванае Алесем Камоцкім, аўтарскае або на вершы іншых беларускіх або замежных творцаў, кранае сэрца. У гэтай кнізе – найлепшае, што назбіралася ў творчым багажы спадара Алеся-паэта, пачынаючы з 1997 года, калі выйшаў яго зборнік «Спроба ісці па расе», і заканчваючы нізкай 2017 года.

**Адам Глобус. Казкі сталічныя. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 104). – 160 с.**




Новая кніга Адама Глобуса складзена з казак (некаторыя з якіх вядомыя чытачу «Дзеяслова»), напісаных у розных сталічных гарадах. Дзіўныя падзеі адбываюцца ў Парыжы, Вільні, Мінску і Віцебску. Пісьменніку пашанцавала, і ён змог пажыць і папрацаваць у гэтых цудоўных сталіцах. У дадатку аўтар змясціў казкі пра мастакоў віцебскай школы і неверагодныя гісторыі пра іх таленавітыя творы. Звычайнае гарадское жыццё тут пераплятаецца з містыкай, казкамі: анёлы, вядзьмаркі, пярэваратні, чараўніцтва... Кніга будзе цікавай і падлеткам, і дарослым – кожны знойдзе свой сэнс: філасафічныя па сваёй сутнасці, казкі маюць яркую сюжэтную лінію пра простыя і зразумелыя кожнаму чалавеку рэчы: ежа, хвароба, каханне...

Кніга была выдадзена ў якасці ўзнагароды за трэцяе месца ў літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца.




**Алесь Кіркевіч. Самурай. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 144 с.**

У сваёй дэбютнай кнізе Алесь Кіркевіч, акрамя стварэння вобразу сучаснасці, спрабуе зазірнуць як у мінуўшчыну, гэтак нават і ў будучыню. Кніга прасякнутая духам патрыятызму, але патрыятызму не паказушна-плакатнага, але – рэфлексійна-роздумнага. З дамешкам сумнаватай усмешкі з абсурдаў рэчаіснасці... Большасць апавяданняў «Самурая» пабачылі свет на старонках незалежнай перыёдыкі. Пры канцы кнігі – жменька вершаваных твораў, што дадаюць зборніку лірызму ды пранізлівай пачуццёвасці.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 51
жнівень, 2018
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 51 25.10.2018.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com